Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№108 (1124) 13 чэрвеня 1995 г. Аўторак.

Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах.

Тыраж 541649 экз.

Кошт у розніцу — 450 руб.

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Желаете купить город?

***Рабочая группа Гомельского облисполкома заявила о намерении продать бывший военный городок, расположенный в двенадцати километрах от Петрикова.***

Его территория — 700 га, есть автомобильные и железные дороги, автономные электростанция и котельная. Вдруг покупатель найдется?

**Леонид ВЛАДИМИРОВ.**

### Огонь наказывает и мстит

***Только за одни сутки, с 8 на 9 июня, в республике получили ожоги различной степени тяжести четыре человека.***

Так, моментально охватил огонь лицо и руки молодого минчанина 1976 года рождения, который мыл бензином двигатель автомобиля. Что стало причиной вспышки, устанавливается. Пострадавший находится в Минском ожоговом центре. 5 классов закончила девочка из деревни Вайщуки Щучинского района, получившая ожоги лица и правой руки из-за взрыва баллона во время включения газовой плиты. Скорее всего, результатом разборок стал пожар в гомельском частном магазине МП "Альтернатива", в результате которого получили ожоги первой и второй степени директор торговой точки и частный предприниматель.

**Татьяна ЗАГВОЗДКИНА.**

### За два тура до часа "икс"

***Состоялись матчи 27-го тура чемпионата Беларуси по футболу.***

Вот их результаты: "Двина" — "Бобруйск" — 2:1, "Динамо-93" — "Торпедо" /Мн/ — 3:0, "Гомсельмаш" — "Динамо" /Бр/ — 1:3, "Торпедо" /Мг/ — "Молодечно" — 1:1, "Обувщик" — "Днепр" — 3:2, "Динамо" /Мн/ — "Шинник" — 3:0, "Шахтер" — "Локомотив" — 1:1, "Ведрич" — "Неман" — 2:0.

Положение команд после 27-го тура

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Динамо Мн | 27 | 17 | 8 | 2 | 67—21 | 42 |
| Двина | 27 | 14 | 13 | 0 | 40—11 | 41 |
| Динамо-93 | 27 | 15 | 9 | 3 | 47—19 | 39 |
| Днепр | 27 | 11 | 8 | 8 | 39—29 | 30 |
| Молодечно | 27 | 10 | 10 | 7 | 38—29 | 30 |
| Торпедо Мн | 27 | 10 | 10 | 7 | 29—23 | 30 |
| Неман | 27 | 9 | 9 | 9 | 23—25 | 27 |
| Обувщик | 27 | 9 | 8 | 10 | 29—34 | 26 |
| Бобруйск | 27 | 8 | 10 | 9 | 30—32 | 26 |
| Торпедо Мг | 27 | 7 | 12 | 8 | 23—24 | 26 |
| Динамо Бр | 27 | 8 | 9 | 10 | 27—29 | 25 |
| Ведрич | 27 | 8 | 8 | 11 | 17—29 | 24 |
| Шинник | 27 | 7 | 9 | 11 | 27—38 | 23 |
| Шахтер | 27 | 4 | 9 | 14 | 20—38 | 17 |
| Гомсельмаш | 27 | 5 | 5 | 17 | 18—46 | 15 |
| Локомотив | 27 | 3 | 5 | 19 | 13—60 | 11 |

### Помолчим

***Мы называли Сережу Левшина, корреспондента спортивного еженедельника "Прессбол", просто "Лео"...***

Как жестока и непредсказуема судьба — еще вчера я общался с ним, а сегодня... Трагический случай провел по жизни и творчеству Сергея черную жирную линию.

11 мая "Лео" поздравляли с 22-летием. 10 июня — его хоронили.

**Алесь СИВЫЙ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.**

Лета ждут все. Наконец-то придет время вволю расслабиться и отдохнуть, ну хоть несколько денечков, школьницам, что вот-вот сдадут свой последний выпускной экзамен. Лета ждет природа, чтобы предстать перед очарованным зрителем во всей пышной, зрелой, роскошной и цветущей красоте.

**Фото Валерия ФЕДОРЕНКО и Сергея БРУШКО.**

## Трижды герои у нас были. Трижды депутат — впервые

Выборы в местные Советы на Гомельщине принесли разочарование многим кандидатам в депутаты. По предварительным сведениям, на сто вакансий в областной Совет избраны только 42 депутата. Лишь на 11 процентов сформирован Гомельский горсовет: избраны 5 депутатов из 45.

Абсолютно довольной результатами прошедших воскресных выборов может быть разве что председатель Советского райисполкома Гомеля Татьяна Филимончик: она избрана 11 июня сразу в три Совета — областной, городской и районный. Чем не рекорд в книгу Гиннесса!

Другому претенденту на три мандата гомельскому учителю географии, председателю партии "Зеленый мир" Олегу Громыко не повезло: он не удостоился ни одного. И если учесть, что Олег Семенович ранее баллотировался в Верховный Совет и также остался ни с чем, то в пору председателю партии обратиться за консультацией к председателю исполкома, трижды депутату Т.Филимончик.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

Мясцовыя выбары: пульс часу

## Агульная млявасць і абыякавасць да ўлады. Але выбар зроблены

Вёска поўнасцю расчаравана ў мясцовай уладзе. Няма даверу ні да дэпутатаў сельскага Савета, ні да выбраннікаў раённага і абласнога маштабаў. Усе беды — нявыплата зарплаты, пустыя паліцы магазінаў, хаос у эканоміцы — спісваюцца на бяздзейнасць і хапужніцтва дэпутатаў і кіраўнікоў мясцовага значэння.

— Выбіраць нікога не пойдзем, — толькі і чуў падчас сваёй камандзіроўкі ў Гомельскую вобласць ад вяскоўцаў. — Яны і так усё раскралі, а цяпер хочуць зусім па свеце пусціць.

— Дык жа не ад мясцовых улад часам усё залежыць, — спрабаваў пярэчыць людзям.

Дзе там. І слухаць не хочуць. Усе як адзін паралізаваны "сіндромам Лукашэнкі".

— Ён там стараецца з апошніх сіл, гаворыць усё правільна, як нам жыць, а яны тут усё на свой капыл паварочваюць. "Мяшаюць" Прэзідэнту — і ніякіх тут іншых думак і меркаванняў.

Масла ў агонь падлівае і няўмелая арганізацыя вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Людзей засмучаюць кабінетныя "гульні" ўладутрымаючых. Ды і як могуць не засмуціць, калі аб магчымых выбранніках даведваюцца выбаршчыкі за дзень да выбараў. Ні табе сходаў, ні табе збору подпісаў на вёсцы.

А тая акалічнасць, што ў дэпутаты "імкнуцца" альбо мясцовыя начальнікі, альбо іх жонкі ці родзічы, і ўвогуле выводзіць вяскоўцаў з сябе. Тут ужо і без моцных слоў не абыходзіцца.

Зноў жа прыведзены назіранні з апошняй камандзіроўкі...

Нарэшце выбары адбыліся. І які кантраст паміж папярэдняй незадаволенасцю і бояззю прамога сутыкнення з "начальствам"! А яшчэ калі яно з чырвонай скрыняй паехала па вёсцы... Як вынік, напрыклад, па Хойніцкім раёне выбраны абодва абласныя дэпутаты: Мікалай Варанецкі, дырэктар Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, і Мікалай Сачанка, дырэктар саўгаса "Судкова". 71 працэнт выбаршчыкаў падтрымалі мясцовыя ўлады. Выбралі, за рэдкім выключэннем, усіх.

— Як жа так? — пытаюся ў сваіх учарашніх апанентаў.

— Ат, кіраваць жа некаму трэба. А яшчэ мо яны падтрымаюць Аляксандра Рыгоравіча.

Зразумей цяпер свой народ.

**Віктар ХАРОШКА.**

## Мечыслаў Іванавіч кіраваў па-старому. Але, відаць, хацеў спадабацца новым

АДАМ АСТАША

Учора ў Авальнай зале адбылася "неабавязковая нарада" Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба з дэпутатамі старога, 12-га, і новага, 13-га, скліканняў. Усім "новым" было паслана запрашэнне. Але ў зале з'явілася ўсяго 45 выбраннікаў са 119 зарэгістраваных.

Прысутным прапанавалася паразважаць аб сітуацыі вакол выбараў. Мечыславу Іванавічу хацелася, каб новыя ўладальнікі дэпутацкіх мандатаў выказаліся наконт змяненняў у законах аб выбарах і аб Вярхоўным Савеце, каб суаднесці іх з прапановамі груп дэпутатаў, Прэзідыума і вынесці 14 чэрвеня на нечарговую сесію.

Са свайго боку Старшыня Вярхоўнага Савета пазнаёміў прысутных з трыма варыянтамі прапаноў.

Першы, які, дарэчы, падтрымлівае, паводле слоў Грыба, большасць членаў Прэзідыума і які пакуль што не атрымаў неабходнай колькасці галасоў. Яго ўнесла Камісія па дзяржаўнаму будаўніцтву. Сутнасць: а) змяніць заканадаўства і лічыць правамоцным Вярхоўны Савет з паловай (50 працэнтамі) выбраннікаў; б) выбары ў Вярхоўны Савет правесці 4 кастрычніка.

Другі. Стварыць прававы калідор для новых дэпутатаў. Зменшыць кворум з 2/3 да 2/5. Гэта значыць 104 дэпутаты змогуць вырашаць лёс краіны.

Матывацыя яго такая: Канстытуцыю для гэтага мяняць не трэба, можна абысціся толькі змяненнямі ў законах. Пры гэтым патрабуецца, каб пры невыбранні паловы дэпутатаў яны не маглі ўносіць змяненні ў Канстытуцыю.

Трэці. Вярхоўны Савет можа самараспусціцца і вырашыць адначасова пытанне аб роспуску Прэзідыума. Кіраваць застанецца толькі Сакратарыят Вярхоўнага Савета.

Пры гэтым Мечыслаў Іванавіч заўважыў, што "мы не будзем настойваць ні на адным з варыянтаў, няхай усё вырашыць сесія".

Калі ж справа дайшла да прапаноў новых дэпутатаў, дык яны звяліся да прамовы небезвядомых Івана Каратчэні, які сказаў, што новыя дэпутаты пры шырокай публіцы пакуль што не хочуць даваць прапановы, пасля чаго Грыб запрасіў пасля нарады "ўсіх жадаючых новых дэпутатаў сабрацца ў яго рабочым кабінеце" (што ў рэшце рэшт і адбылося); Віктара Кучынскага, які заклікаў "новых" не ўлазіць у палітычныя гульні, ды двух выбраннікаў, якія гаварылі аб "зняцці з іх старых прывілей" ды аб працэнтах любові ці нелюбові да старых нардэпаў народа.

Калі гаварыць па вялікім рахунку, атрымаўся з задумы пшык. Бо дэпутаты 12-га склікання стаялі на сваіх даўно вядомых пазіцыях, а "новыя", здавалася, баяліся мікрафонаў ці не ведалі што казаць.

Як бы там ні было, але спікер парламента Мечыслаў Грыб запрасіў новых абраннікаў прысутнічаць на нечарговай сесіі. Можа, хацеў ім спадабацца? Толькі нешта ж мала было ўчора жадаючых акунуцца ў вір палітычнай барацьбы.

### Да ведама дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Нечарговая семнаццатая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання пачне сваю работу 14 чэрвеня 1995 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме Ўрада.

## Время деревенской политики

***Несмотря на жару, дачи, сенокос и резкое сокращение властных полномочий местных Советов, более половины избирателей Могилевской области все же приняли участие в выборах. Вот только результативность голосования невысока. Из 92 депутатов облсовета избрано лишь 28. В основном это руководители, среди которых больше всего председателей колхозов. В 45 округах выборы не состоялись. В 16 предстоит повторное голосование — здесь за мандат народного избранника будут бороться по два кандидата, набравших наибольшее количество голосов.***

Не сформированы органы представительной власти и в городах области. В Осиповичах, к примеру, из 35 депутатов в горсовет избраны только три. Малорезультативными были выборы во всех городских районах. Зато сельские свои местные "парламенты" в основном уже укомплектовали до рабочеспособного состояния. Исключение составили лишь Климовичский, Кличевский и Чериковский районы, где чуть-чуть не дотянули до необходимых двух третей депутатского корпуса.

А вообще-то заметных перемен в настроении людей за две недели после выборов в Верховный Совет не произошло. По-прежнему самой политически активной частью общества на Могилевщине являются сельские жители. А горожане, похоже, в большинстве своем ко всем формам парламентаризма относятся либо с недоверием, либо равнодушно. Тем самым вручая селу судьбы не только своих желудков, но и государства.

**Николай ТОЛСТИК.**

## Такіх выбараў яшчэ не было

Такіх выбараў у мясцовыя Саветы ўсіх узроўняў у гісторыі Беларусі яшчэ не было. На жаль, гэта незвычайнасць мае знак "мінус". І вінаватыя ў тым выбаршчыкі — у большасці 11 чэрвеня яны праігнаравалі выкананне свайго грамадзянскага абавязку. І калі вяскоўцы былі адносна актыўныя, то гараджане, відаць, аддалі перавагу дачным участкам, а не выбарчым.

Як паведамлялася ўжо, у абласныя Саветы было зарэгістравана 2392 кандыдаты ў дэпутаты, раённыя — 7063, гарадах абласнога падпарадкавання — 3173, гарадах раённага падпарадкавання — 1984, у гарадскія райсаветы — 1710, пасялковыя — 1756, у сельскія — 18730. Увогуле на 6698 выбарчых участках у барацьбу за дэпутацкія мандаты ўключыліся 35 тысяч прэтэндэнтаў.

Паводле папярэдніх даных, якія карэспандэнтам Белінфарма прадаставілі ў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, усяго ў выбарах прыняло ўдзел 47,6 працэнта выбаршчыкаў.

Выбары ў сельскія, пасялковыя і раённыя Саветы, мяркуючы па папярэдніх выніках, адбыліся.

Не падахвоціла насельніцтва за раз пакончыць з выбарамі тая акалічнасць, што сродкі на іх правядзенне бяруцца з кішэні саміх выбаршчыкаў. Дастаткова сказаць, што з бюджэту кожнай вобласці на выбарчую кампанію затрачана каля чатырох мільярдаў рублёў, выдзеленых з мясцовых бюджэтаў. І вось цяпер непазбежны новы тур выбараў, спатрэбяцца новыя мільярды. І зноў узнікне пытанне: а дзе іх узяць? Дарэчы, як паказвае практыка, паўторныя выбары, звычайна, адрозніваюцца яшчэ меншай актыўнасцю выбаршчыкаў. Але куды ўжо менш.

Афіцыйныя вынікі галасавання будуць падведзены пазней. Паўторныя выбары, згодна з заканадаўствам, павінны адбыцца праз тры месяцы.

**Уладзімір ГУЛЕВІЧ, Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Ларыса ЛАЗАР, Белінфарм.**



## Милосердие просит о помощи

***700 наборов для медсестер передал Красный Крест Дании для службы милосердия Белорусского Красного Креста.***

Каждый такой набор стоимостью 300 долларов США содержит годовой запас медикаментов и медицинских приспособлений для работы медсестры. В службе милосердия Белорусского Красного Креста работает около 600 сестер, на попечении которых находятся одинокие инвалиды I группы. Ежедневно каждая сестра посещает 10—15 своих подопечных, оказывая им медицинскую и социально-бытовую помощь до конца их жизни. Однако в последнее время Красный Крест был вынужден пойти на увольнение медсестер из-за отсутствия средств на зарплату, которая не выплачивается им в некоторых регионах уже два месяца. Правительственной помощи Красный Крест не получает никакой.

**Наталья ГУСАКОВА.**

## У Слуцку ўсё па-людску

Ні спякотнае надвор'е, ні гаспадарчыя клопаты случан не сталі перашкодай у правядзенні выбараў. Скептыкі памыліліся: палітычная актыўнасць, грамадзянская свядомасць людзей узялі перавагу.

Вось як пракаменціравала вынікі выбараў у раёне намеснік старшыні Слуцкага райсавета Клаўдзія Шпакоўская:

— За дэпутацкія мандаты ў раённы Савет у 43 акругах змагаліся 58 кандыдатаў. Выбары адбыліся ўсюды: Савет абраны ў поўным складзе. Сярод дэпутатаў найбольш прадстаўнікоў Аграрнай партыі, камуністаў. Прадстаўнікі іншых палітычных плыняў асабліва не вызначыліся.

У трох акругах праходзілі выбары ў абласны Савет. Прэтэндэнтаў было шэсць. Абраны два дэпутаты, у трэцяй акрузе будуць назначаны паўторныя выбары. Двух сапернікаў- мужчын перамагла старшыня калгаса імя Арджанікідзе Лілія Савановіч.

Актыўна галасавалі случане і за кандыдатаў у мясцовыя сельскія Саветы. Выбары адбыліся ў 220 акругах. Саветы сфарміраваны больш чым на 2/3 часткі. Так што ёсць кворум, можна пачынаць работу.

Спадзяванні на новы дэпутацкі корпус у людзей вельмі вялікія.

**Віктар ЧАРНУШЭНКА.**

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

## Аб зацвярджэнні Палажэння аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь

На падставе рашэння рэспубліканскага рэферэндуму, праведзенага 14 мая 1995 г., **пастанаўляю**:

1. Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

2. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым указам.

3. Указ уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

7 чэрвеня 1995 г.

г.Мінск. № 214

*Зацверджана ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 чэрвеня 1995 г. №214*

## ПАЛАЖЭННЕ

### аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь

1. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь з'яўляецца сімвалам дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, уяўляе сабой прамавугольнае палотнішча, якое складаецца з дзвюх гарызантальна размешчаных каляровых палос: верхняй — чырвонага колеру шырынёй у 2/3 і ніжняй — зялёнага колеру ў 1/3 шырыні сцяга. Каля дрэўка вертыкальна размешчаны беларускі нацыянальны арнамент чырвонага колеру на белым полі, якое складае 1/9 даўжыні сцяга. Адносіны шырыні сцяга да яго даўжыні — 1:2. Сцяг мацуецца на дрэўку (флагштоку), якое фарбуецца ў залацісты (охра) колер.

Пры цырымоніях і іншых урачыстых мерапрыемствах Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь выкарыстоўваецца з навершам ромбападобнай формы з выявай пяціканцовай зоркі, аналагічнай яе выяве на Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь. Навершы выраблякоцца з металу жоўтага колеру.

2. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь узнімаецца:

над рэзідэнцыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — пастаянна;

над будынкам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — пастаянна, а над будынкам, у якім праводзіцца сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, — на перыяд работы сесіі;

над будынкам Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь — пастаянна;

над будынкамі судоў Рэспублікі Беларусь, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў — пастаянна, а над будынкамі, у якіх праводзяцца пасяджэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, — на час правядзення пасяджэнняў;

на будынках і сродках перамяшчэння дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтваў, на будынках гандлёвых устаноў Рэспублікі Беларусь, што размешчаны за мяжой, на марскіх суднах і іншых сродках перамяшчэння, на якіх у якасці афіцыйных асоб знаходзяцца Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь ці іншыя асобы, якія прадстаўляюць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь або Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, — у парадку, вызначаемым Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

на памяшканнях для галасавання — у дні выбараў і рэферэндумаў;

у вайсковых часцях Рэспублікі Беларусь згодна з вайсковымі статутамі;

на пагранічных заставах і прапускных пунктах (мытнях) Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь;

на марскіх суднах, якія з"яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь, суднах рачнога флоту Рэспублікі Беларусь;

на спартыўных арэнах — у час правядзення чэмпіянатаў і першынстваў Рэспублікі Беларусь, міжнародных спартыўных спаборніцтваў з удзелам нацыянальных зборных і ў час узнагароджання беларускіх спартсменаў — пераможцаў міжнародных спаборніцтваў;

на іншых аб"ектах па распараджэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў дэпутатаў, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты таксама пры цырымоніях і іншых урачыстых мерапрыемствах, якія праводзяцца дзяржаўнымі і грамадскімі органамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі, у час народных, працоўных, сямейных свят і ў іншыя памятныя дні.

3. Пры адначасовым узняцці Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і сцягоў іншых дзяржаў Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь павінен быць узняты з левага боку, а сцягі іншых дзяржаў — з правага, калі стаць тварам да фасада будынка або флагштока. Сцягі дзяржаў размяшчаюцца ў алфавітным парадку.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь размяшчаецца на адным узроўні са сцягамі іншых дзяржаў.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь на транспартных сродках (за выключэннем суднаў) размяшчаецца з левага боку ў напрамку руху, а сцяг іншай дзяржавы — з правага боку.

4. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь устанаўліваецца ў памяшканнях пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў дэпутатаў, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама ў службовых кабінетах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь і пакоях, у якіх дэпутаты Рэспублікі Беларусь пастаянна прымаюць выбаршчыкаў.

5. У час жалобы па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь або Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты ў жалобным афармленні. У гэтым выпадку да дрэўка (флагштока) сцяга прымацоўваецца стужка чорнага колеру, канцы якой павінны звісаць да ніжняй часткі сцяга. Сцяг, узняты у час жалобы на флагштоку, прыспускаецца на 1/3 даўжыні флагштока.

6. Выява Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь абавязкова змяшчаецца на паветраных суднах, зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь.

7. Выява Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь можа быць выкарыстана ў дэкаратыўных мэтах у якасці дзяржаўнага і нацыянальнага сімвала такім чынам, каб пры гэтым не была праяўлена непавага да Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.

8. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і яго выява незалежна ад іх памеру заўсёды павінны адпавядаць каляроваму эталону і схематычнай выяве, якія прыкладаюцца да гэтага Палажэння.

9. Асобы, вінаватыя ў зневажанні Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

10. Правілы прымянення гэтага Палажэння і парадак вырабу Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь вызначаюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Народная газета

РЕЗОНАНС

## “Наша фабрика продана не будет”

Так заявила директор Витебской фабрики художественных изделий Антонина Ларычева в ответ на нашу публикацию от 6 июня с.г. “Жара. А денег нет даже на квас...”, где справедливо оценивается тяжелейшее финансовое положение этого предприятия. В то же время вопреки информации, полученной корреспондентом газеты из, казалось бы, надежных источников, вопрос о продаже или сдаче в аренду части производственного корпуса не ставился. Администрация фабрики рассчитывает на благополучный выход из кризисной ситуации, в которой находятся сейчас десятки подобных производств.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

## “Виткомбанка” больше нет. Да здравствует “Белбизнесбанк”!

Так и не набрав (совсем немного!) до необходимого уставного фонда, “Виткомбанк” большинством голосов учредителей решено “сдать” более устойчивому “Белбизнесбанку”, имеющему в Витебске два представительства, и его денежные ресурсы (10 миллиардов рублей), и хорошо организованную сеть филиалов. От слияния банков вроде бы никто из клиентов “Виткомбанка” не пострадает. Зато сотрудников, очевидно, ждет крупное сокращение...

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

## Инспекция Республики Беларусь по ценным бумагам предупреждает

***В последнее время в средствах массовой информации ведется широкая рекламная компания о продаже билетов АО МММ.***

Инспекция Республики Беларусь по ценным бумагам доводит до сведения граждан, что так называемые **билеты** АО МММ **не являются** ценной бумагой на территории Республики Беларусь и никакого разрешения на деятельность такого рода со своими ценными бумагами это общество не имеет.

Желающим приобрести вышеуказанные билеты следует хорошенько подумать, прежде чем отдавать свои сбережения в руки небезызвестного АО МММ.

**Пресс-служба Инспекции по ценным бумагам.**

# На завод, у беспрацоўныя

**Мікалай ТОЛСЦІК**

На заводзе гумавых вырабаў здаўна працавалі кланамі. Сталыя сямейныя пары ўладкоўвалі сюды сваіх нашчадкаў. Клапатлівыя дзядзькі і цёткі, стрыечныя браты і сёстры мэтанакіравана збіралі тут шматлікую радню. Бо Крычаў — не Мінск і не Магілёў: надта вялікага выбару месцаў работы ў ім не было ніколі. Але галоўнае, гумаўшчыкі — як і ўсе работнікі прадпрыемстваў нафтахімпрама — мелі адчувальныя льготы і добра зараблялі.

Да сёлетняга сакавіка бухгалтар Наталля Марчанка таксама дужа не шкадавала, што муж некалі перакваліфікаваўся з заатэхнікаў у майстры на яе заводзе. Але зараз зайздросціць тым, хто працуе паасобку. Вось ужо больш за тры месяцы сям'я Наталлі Марчанкі неяк існуе (бо жыццём гэта не назавеш) на пенсію свякрухі. Бо якія ж зараз на гумавым грошы? Іх толькі налічваюць, але не плацяць. Як ні лямантуюць у дырэктарскім кабінеце жанчыны з малымі дзецьмі, галосячы, што тыя, акрамя малака і хлеба, нічога не бачаць.

Асобныя мо не бачаць і малака. У прадуктовы магазін каля завода яго прывозяць на дзень усяго дзве скрыні, ды і тыя не раскупляюць. Мусіць, магазін хутка зачыняць як стратны.

А так хочацца хоць чым-небудзь парадаваць сям'ю! І калі няма моцы трываць, дастае Наталля Марчанка з патаемнага месца схуднелы пачак расійскіх грошай, здабытых некалі на базары ў недалёкім Рослаўлі за крычаўскія каўбасу, тварог, смятану, і ідзе да мянял.

Нядоўга, пэўна, хадзіць давядзецца. З чым, як ні стараліся, не маглі саўладаць мытня і міліцыя, справілася эканоміка. У Расіі прадукты і тавары ўжо танней, чым у Беларусі. Крычаўскі масларобчы завод, за якім цікавала гурма легальных і нелегальных кантралёраў, каб, барані Бог, рэспубліка не сканала з-за “чаўнакоў” ад голаду, зараз затаварыўся маслам і тварагом, што называецца, па вушы. На мытні ў суседнім Клімавіцкім раёне мяшочнікаў ужо не трасуць і нават не спыняюць — дзейнічае міждзяржаўнае пагадненне. Ды і няма каго асабліва спыняць і трэсці. На базар у Рослаўль ці Шумячы спяшаецца з Крычава хіба што той, у каго яшчэ засталіся рэшткі раней прыдбаных тавараў або каму ўдалося задарма пажывіцца парай-другой ботаў ці галёшаў на тым жа заводзе гумавых вырабаў.

Такіх — адзінкі. А сотні тых, хто гэтыя боты і галёшы нядаўна выраблялі, зацягнуўшы паясы, ловяць на сотках каларадскіх жукоў і ваююць з пырнікам і макрыцай. А што зробіш? Трэба ж неяк жыць. Адзіная работа зараз на заводзе — падмятаць двор па панядзелках. Ды і за тую не плацяць.

❑

Намеснік дырэктара па вытворчасці Міхаіл Сіпайла лічыць, што цяперашнія беды прадпрыемства пачаліся ў мінулагоднім верасні, калі зверху паступіла грозная каманда — паставіць гандлю прадукцыю без перадаплаты. Абутку вывезлі тады на 3 мільярды рублёў, пакінуўшы склад пустым. Разлічваліся ж з гумавым, як зараз вядзецца, у гадзіну па чайнай лыжцы ды яшчэ абясцэненымі інфляцыяй грашамі. І закруцілася кола ўзаемных неплацяжоў. На пачатак мая завод завінаваціўся 2,6 мільярда рублёў энергетыкам, 2 мільярды — у бюджэт і 800 мільёнаў рублёў уласнаму калектыву на зарплату. З другога боку, доўг гандлёвых арганізацый прадпрыемству перавысіў мільярд і на 7,7 мільярда рублёў назапашана на заводскім складзе нерэалізаванага гумавага абутку. Ды і як яго прадаць, калі асноўны пакупнік — вясковы жыхар — сам месяцамі зарплату не атрымлівае?

Зараз заводскія камерсанты сядзяць ва Узбекістане: мо хто спакусіцца на шырока разрэкламаваныя “галёшы ўсходнія” па 5 долараў за пару. Але нешта сумніцельна, каб тамашні дэхканін быў багацейшы за нашага селяніна.

А пакуль што гумавы пазбавілі электрычнасці і пары за даўгі. Сёлета ён паўнацэнна адпрацаваў усяго 6 дзён у сакавіку. Зараз цішком, на аварыйнай энергіі тут дае прадукцыю ўсяго адзін участак, дзе працуюць 50 чалавек, калі лічыць і абслугу, з амаль паўтаратысячнага калектыву.

Нават няўзброеным вокам відаць: надыходзяць вялікія скарачэнні персаналу, як ні супрацьўляецца ім старшыня прафкама Мікалай Лючкоў. Колькі давядзецца звальняць? Па разліках таго ж Міхаіла Сіпайлы, сама меней трэць рабочых і спецыялістаў.

❑

Вось і сцвярджай пасля гэтага, што былы дырэктар завода Уладзімір Шыпіцын быў непрадбачлівым кіраўніком. Акрамя прадпрыемства ён узначальваў яшчэ крычаўскую арганізацыю камуністаў і, памятаецца, любіў паразважаць з трыбун аб пралетарскай салідарнасці. Трэба аддаць належнае: словы яго са справамі не разыходзіліся. Калі аб'ём вытворчасці за першы сёлетні квартал у супастаўных цэнах знізіўся на прадпрыемстве ў параўнанні з адпаведным леташнім перыядам амаль на дзве трэці, дык колькасць працуючых тут... павялічылася больш чым на 17 працэнтаў. Але хто будзе ўслых вінаваціць У.Шыпіцына за тое, што такая сітуацыя складвалася на заводзе гадамі? Ён заўзята выконваў дзяржаўную палітыку, якую ніхто не адмяніў і дагэтуль: любымі сродкамі ўтрымліваць на прадпрыемствах як мага больш людзей.

Аднак утрымліваючы і дэкларуючы, былы дырэктар гумавага, як вопытны спецыяліст, не мог не разумець, што менавіта гіганцкае схаванае беспрацоўе ў рэшце рэшт знішчыць завод, што без адпаведнасці колькасці працуючых аб'ёмам вытворчасці не бывае эфектыўнай эканомікі. Аб гэтым сведчаць і лічбы. У 1990 годзе крычаўскі гумаўшчык вырабіў у сярэднім 3,8 тысячы пар абутку, летась ужо толькі крыху больш за тысячу, а сёлета, калі пакінуць усё як ёсць, дык усяго пар 500 мо і набярэцца. З такой прадукцыйнасцю працы шлях адзін — у жабракі. Куды, у рэшце рэшт, і трапілі.

Толькі не У.Шыпіцын. У 1992 годзе, калі тэндэнцыі абвалу ўжо рэальна прагназаваліся, ён перадаў на Дон, адкуль родам, нейкаму навукова-вытворчаму цэнтру “Сфера” пад вельмі сумнiўныя дагаворы італьянскі ліццёвы агрэгат з аснасткай і дапаможным абсталяваннем, прызначаны для вырабу высакаякаснага спартыўнага абутку, а таксама аўтобус і 4 рубленыя дамы. Шчодрыя дарункі пацягнулі на велізарную па тым часе суму — амаль на 400 мільёнаў рублёў. “Свайму чалавеку” за бясцэнак перапала заводская “Волга”. А незадоўга да зняцця з кіруючай пасады, якое ўрэшце адбылося пяць з паловай месяцаў назад, з завода гумавых вырабаў У.Шыпіцын адправіў ва Узбекістан, дзе падоўгу любіў бываць у камандзіроўках з жонкай, партыю тавару. Без перадаплаты, вядома.

У міжрайпракуратуры зараз толькі бездапаможна разводзяць рукамі. Бо дагаворы заключаліся ад імя завода. І калі тая ж “Сфера” яму не плаціць за арэнду, дык належыць звяртацца ў гаспадарчы суд. Дарма, што ён знаходзіцца ў Растове-на-Доне, а ў гумавага няма расійскіх грошай на судовыя выдаткі. Да таго ж былы дырэктар пасылаў у “Сферу” вельмі далікатныя напамінкі аб даўгах. І хоць усе яны безвыніковыя, ад юрыдычных непрыемнасцей сам застрахаваўся.

Вось вам і “непрадбачлівы Шыпіцын”... Акцыі яго ў заводскай курылцы зараз растуць, а ў Уладзіміра Клімовіча — падаюць, хоць той усяго з Новага года ў дырэктарах. Бо, як горача даводзілі аўтару гэтых радкоў тры дзеўкі з выразным пахам “пасля ўчарашняга”, “пры ранейшым” хоць некалькі дзён у месяц працавалі, а “пры цяперашнім” па панядзелках у цэх толькі адзначацца ходзяць. А некаторыя вельмі непасрэдныя ў сваёй шчырасці жанчыны з настальгіяй успаміналі залатыя ранейшыя дзянькі, калі можна было тыднямі корпацца на сотках, цягацца з клункамі па Расіі, а на гумавым яшчэ і дзве трэці тарыфнай стаўкі плацілі. Як жартавалі тады мясцовыя дасціпнікі, “работа на заводзе патрэбна для адпачынку ад гандлю і дачы”.

Куды ўжо новаму дырэктару спаборнічаць у папулярнасці са старым! Мяркую, яго акцыі хутка ўпадуць яшчэ ніжэй. Зараз кіраўніцтву прадпрыемства нічога не застаецца рабіць, як ачысціць склад гатовай прадукцыі нават з фінансавымі стратамі і тэрмінова знізіць сабекошт вырабаў хаця б на трэць. На галёшы за 5 долараў пара ахвотнікаў няма, а за 3,5 мо і знойдуцца. Але як знізіць, калі ў дабаўленай вартасці, гэта значыць у матэрыяльных каштоўнасцях, створаных непасрэдна гумаўшчыкамі, удзельная вага зарплаты ажно 65 працэнтаў? Яна і цягне цану ўгору. Так што хоць круць-верць, хоць верць-круць, а зноў жа атрымліваецца: паўтысячы чалавек, калі не болей, давядзецца з завода звальняць. Адбудзецца гэта, зразумела, зусім не пад апладысменты. Першы мітынговы гром ужо прагрымеў.

Праўда, апошнім часам у дырэктара з'явілася пэўная апора ў калектыве. Многія рабочыя ўжо ўцямілі, што калі б кожны працуючы не ўтрымліваў плойму тых, хто толькі распісваецца за дзве трэці тарыфнай стаўкі, дык зарплата была б не раўня тым 352 тысячам рублёў, якія ў сярэднім налічылі на гумавым у красавіку. І ў гарадскі фонд садзеяння занятасці можна было б тады бязбольна адлічваць не жабрацкі 1 працэнт з кожнага заробленага рубля, як цяпер, а непараўнальна больш. І тым самым адчувальна дапамагчы ўсім, хто страціў работу.

❑

Дзень, калі сама меней паўтысячы гумаўшчыкоў падвояць цяперашнюю колькасць крычаўскіх беспрацоўных, будзе, вядома, не самым лепшым для гарвыканкама і яго кіраўнікоў. Але фактычна гэтая хваля даўно ўжо выплюхнулася на горад. Таму вопытны “вертыкальны” Аляксандр Яленскі і яго намеснік па эканоміцы Сяргей Крыжэвіч не схільныя дужа драматызаваць сітуацыю. Чым сядзець без капейкі, няхай людзі штомесяц хоць дзве мінімальныя зарплаты ў цэнтры занятасці атрымаюць. Усім, хто жадаў, далі зямлю. Увосень можна нядрэнна падзарабіць на ўборцы ўраджаю. Так што той, хто з галавой і рукамі, не прападзе.

Вось каб яшчэ “зверху” дапамаглі добрымі законамі і ўказамі! Ну, не падабаюцца камусьці словы “бізнес” і “прадпрымальніцтва”, дык няхай бы замянілі іх, скажам, на “самазабеспячэнне насельніцтва” ці на “самазанятасць”. Сутнасць не ў словах, а ў развіцці сферы рынкавай эканомікі, якая ў цывілізаваным грамадстве, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і паглынае лішкі рабочай сілы, што раз-пораз утвараюцца ў буйной вытворчасці.

Да “самазанятасці” крычаўлянам не прывыкаць. Калісьці яны адлівалі славутыя званы, выраблялі скуры, былі адмысловымі ганчарамі і ўмелымі гандлярамі, за што гораду было даравана магдэбургскае права. Ды што ў гісторыю далёка глядзець! У рыжкоўскія часы тут імкнуліся ўладкавацца не ў мытню, не ў падатковую інспекцыю і не ў міліцыю, як зараз, а ў кааператыў. Гэта цяпер 33 тутэйшыя МП, АП, АТ і розныя іншыя ТАА, а таксама 223 прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы ўсё больш “снікерсамі” жывяцца. А тады ледзь не спрэс займаліся вытворчасцю, будаўніцтвам, рамонтам гарадскіх пабудоў... Бо закон “Аб кааперацыі” даваў магчымасць чалавеку, што ўласную справу заводзіў, стаць на ногі.

І зараз такі закон вельмі патрэбны. Інакш куды беспрацоўнаму падацца — хоць зарэгістраванаму, хоць таму, хто яшчэ на заводзе рабочым лічыцца, ім фактычна не з'яўляючыся? У зладзеі хіба. Многія, дарэчы, і падаюцца. Сёлета ціхмяны патрыярхальны Крычаў замучылі крадзяжы. Чысцяць кватэры і пуні, гаражы і падвалы. Цягнуць ад саляркі з нафтаправода “Дружба” да зялёнай цыбулі з градак.

І не дзіўна. Людзі збяднелі ўшчэнт. Прамтаварныя магазіны хоць закрывай за непатрэбнасцю. За першы сёлетні квартал больш чым удвая зменшылася спажыванне мяса. У красавіку 33-тысячны горад купіў у магазінах дзяржгандлю ўсяго 200 кілаграмаў цвёрдага сыру.

Адзінае, чаго пачалі значна болей спажываць, дык гэта гарэлкі. Па п'янцы жонкі, здараецца, выпускаюць кішкі мужам, а мужы да крыві лупцуюць дзяцей і жонак.

У схаванага беспрацоўя, якое ўгнездавалася за варотамі не толькі завода гумавых вырабаў і, разросшыся, зараз паўсюдна палезла вонкі, жудаснае абліччa. У ім злавесна з'ядналіся інфляцыя і маральнае дзікунства, крымінальшчына і пагалоўнае збядненне. Заклікамі да пралетарскай салідарнасці і загадамі “любой ценой трымаць людзей на прадпрыемствах” разбуральнае ўздзеянне гэтай сацыяльнай іржы на грамадства можна толькі пашырыць і ўзмацніць. Мы і так шмат гадоў спрабавалі прымусіць эканоміку служыць палітыцы, ідэалогіі і дабрачыннасці. Вынік — у нашых пустых кашальках.

А таму няхай завод гумавых вырабаў і іншыя прадпрыемствы працуюць хоць з меншым аб'ёмам вытворчасці і з меншай колькасцю работнікаў, але паўнакроўна. Няхай на гэтай аснове зарабляюць сабе на развіццё, нармальна плацяць у бюджэт і сваім працаўнікам. І няхай тыя працаўнікі купляюць усё, што ім патрэбна, тым самым даючы работу іншым.

Вось гэта і будзе сапраўдная салідарнасць.

*г.Крычаў.*

РАКУРС

## Калі ж вылечым медыцыну?



**Марыя ЖЫЛІНСКАЯ, фота аўтара**

Чацвёртая бальніца Мінска вядомая на ўсю краіну як база навукова-даследчага інстытута кардыялогіі. Працуюць тут спецыялісты “вышэйшага пілатажу”.

Кардыяхірургія — самая дарагая галіна медыцыны. А таму ва ўмовах нашай хворай эканомікі пакутуе медыцына, і ў першую чаргу кардыяхірургія. Кошт адной аперацыі тут — больш двухсот мільёнаў “зайчыкаў”. Гэта нягледзячы на тое, што ў Мінску яна больш танная, чым, скажам, у іншых краінах СНД, асабліва ў далёкім замежжы, дзе кошт аперацыі на сэрцы дасягае 300 тысяч долараў ЗША. Значыць, сваіх хворых трэба лячыць дома.

Спецыялісты кардыяхірургіі ўсё яшчэ спадзяюцца на нейкі цуд, калі замест 300 аперацый штогод будзе магчыма праводзіць да тысячы. Бо патрэба ж у павелічэнні колькасці аперацый вельмі вялікая. І заработную плату мараць атрымліваць годную чалавечага жыцця. Праўда, многія высакакласныя спецыялісты не вытрымліваюць: ці за мяжу імкнуцца з'ехаць, ці камерцыяй заняцца. А непрактыкуючы хірург праз некаторы час безнадзейна згублены для такіх складаных аперацый на сэрцы, няхай ён нават самы-самы...

Медсястра кардыяхірургіі аддзялення парушэння рытму Лілія Чыстоўская.

❑ *У аперацыйнай.*

Судьба человека

**Борис НАЗАРЕНКО:**

# “Я прошел три войны...”

## Рассказ о донском казаке, который сначала научился взрывать, а потом строить...

**Павел СТАСЕВИЧ**

***Пить, конечно, вредно. Особенно летом, в жару. Но в нашей журналистской профессии иногда бывает так, что рюмка водки “выводит” на интереснейшего человека, после знакомства с которым не рассказать о нем трудно.***

***Недавно случилось такое и со мной. Зашел в одну небольшую фирму, спасаясь от полуденной жары, а там обедают.***

***— Сто граммов возьмешь? — спрашивают.***

***— Да вы что, мужики?! Двадцать восемь в тени!***

***— Такой напиток не повредит, проверено, — ответили мне и налили.***

***Вещица и впрямь оказалась лечебной: удивительно мягкая, без запаха, но продирающая горло. Открыли секрет: водка “Смирнов”, особым образом настоенная на горьком болгарском перце.***

***— Кто автор? — спросил я.***

***Мне назвали фамилию и возраст — 78 лет. А попутно сообщили кое-что из его биографии. Это “кое-что” я крепко запомнил и через пару дней уже звонил в одну из минских квартир.***

***Дверь мне открыл пожилой человек и сразу представился:***

***— Назаренко Борис Николаевич. Три инфаркта и один инсульт...***

***Память у Бориса Николаевича оказалась прекрасной. И работает он каждый день.***

***— Не люблю я этих стариковских “охов” да “ахов”. С утра подъем — и за дела. Пишу вот статьи, кое-что рисую, веду архивы...***

***Вот такое предисловие к беседе, которую вы прочитаете ниже. Я, конечно, кое-что из нее “ужал”, помня о газетных рамках. Хотя и было жалко — Борис Николаевич из того поколения, которое завершает свой нынешний путь на земле, и их память — основа той Истории, которую мы не знаем.***

***А знать — право же, не грешно. Особенно нам, нынешним, напряженно обдумывающим свое житье-бытье...***

**— Начнем, Борис Николаевич, видимо, с самого начала...**

— Хорошо. Родился я на хуторе Гремячий, который входил в область Вешенского войска. И мой дед, и мой отец в нем служили...

**— Названия знаменитые. Шолохов, “Тихий Дон”...**

— Да. Мой отец, Николай Николаевич, Шолохова и Шолоховых знал, и знал хорошо. Ведь отец Михаила Шолохова — и об этом, кстати, почему-то не пишут, — был войсковым атаманом.

**— Что это за звание?**

— Это полковник. А станица Вешенская — как город, вокруг нее были хутора, станицы, которые, скажем так, Вешенской “подчинялись”. Словом, это была окружная станица. А командовал всем отец Шолохова. Это был знаменитый человек. Умный, грамотный. Авторитетный. Ну, а его сын, Михаил Шолохов, пошел в науках еще дальше отца.

**— Вы имеете в виду роман “Тихий Дон”?**

— Конечно! Это великая книга о казаках и казачестве. О жизни. Сейчас таких романов не пишут.

**— В связи с этим, Борис Николаевич, не могли бы вы высказать свою точку зрения по поводу авторства Шолохова, о чем было много шума и за рубежом, и у нас: мол, такому молодому такие гениальные вещи не по силам, автор просто “перелопатил” записки Федора Крюкова.**

— Это все глупости. Так говорить могут только дураки или завистники. Лично у меня никогда никаких сомнений на этот счет не возникло по той причине, о которой я говорил выше. А именно: мой отец хорошо знал и отца, и сына Шолоховых. И если Михаил Шолохов и пользовался какими-то записками, то в первую очередь записками, дневником своего отца, войскового атамана! А Шолохов-старший такие записки вел. И по долгу службы, и как талантливый к наукам казак, неординарная личность. Во всяком случае, мой отец о таких записках много раз вспоминал. А своему отцу я верю. Он был сильный казак, полный Георгиевский кавалер с бантом.



❑ *Автопортрет. В землянке. Воронежский фронт. 1943 г.*

**Рисунок Б.Назаренко.**

Мой отец всегда, еще до романа, называл его “умнейшим человеком”. Видимо, было за что. Да и вообще, скажу вам, казаки — народ умный.

**— И что — глупостей не делают?**

— Делают. Я, например. Однажды, уже жил в Минске, меня попросили выступить перед аудиторией, где были и казаки. Ну, я и сморозил глупость: начал рассказывать кое-что из истории. Упомянул и фамилию Тухачевского. И сразу почувствовал: не надо было этого делать, в зале словно струна натянулась.

**— Почему?**

— Ну как “почему”? Казаки ведь Тухачевского очень не любят. Командуя на Южном фронте 5-й армией, он по указанию Свердлова и особенно Троцкого начал расстреливать, опасаясь восстания, самых авторитетных казаков — Георгиевских кавалеров. Выбили самых лучших. Расстреляли и двоих моих дядей по линии матери.

И вообще наш казацкий род известный. Моя прабабушка, например, была дочерью знаменитого генерала Платова.

**— Скажите, а откуда вообще эта казацкая гордость, особая струна, которую одни любят, другие боятся, третьи ненавидят...**

— Из истории, конечно. А если коротко, то была простая и надежная система, которая воспитывала патриотизм. Если, скажем, во время военной кампании ты совершил подвиг, то государство этого никогда не забывало. Награды соответствовали делам. Мой дед, например, после освобождения Болгарии за свои там заслуги получил 100 золотых и 100 десятин земли. И земли отличной.

**— Ну, что казаки жили неплохо, известно...**

— А что известно? Вы же не знаете, что казак из богатого мог очень быстро стать бедным. Отправляя, например, сына на службу, он обязан был ему дать два коня, бекешу, шинель, саблю, седло, рабочий и парадный костюмы.

А дочери, выходящей замуж, — корову, телушку, пять овец, две свиньи, сотню кур и еще много чего.

**— Ваша юность тоже прошла в Гремячем?**

— Нет. Отец заболел, мы переехали в Таганрог. Там я “заболел” рисованием, меня заметили. Направили в репинский архитектурно-художественный институт, что был при Академии художеств в Ленинграде. Но там заболел на горловую чахотку. Посоветовали переехать в Тбилиси. А там с меня потребовали для зачисления на второй курс 25 тысяч рублей! В то время!

Жирновато, словом. Я отправился в Харьков. А украинского языка не знал, три раза писал диктант. Хотя немецким к тому времени владел почти отлично.

**— Откуда?!**

— А из Таганрога. Город был интернациональный: русские, татары, евреи, немцы. А я, юноша, все впитывал моментально. Особенно немецкий. У меня, по оценкам специалистов, оказался... баварский диалект. И вообще я был похож на боша: кругленький, светловолосый. С ребятами-немцами мы резались в футбол. Я еще ходил на бокс. И все успевал. И очень хотел стать сильным, физически в том числе. И в 1935 году своего добился — стал первой перчаткой Украины в полусреднем весе. А в 1938-м попал на Халхин-Гол.

**— Каким образом?**

— Добровольцем. Но мы немного опоздали. Жуков, у него тогда было четыре ромба — комкор, к нашему приезду основные силы японцев уже разбил. Так и сказал нам, когда нас привезли и построили: “Опоздали малость, без вас обошлись...” Я не выдержал и ответил: “Но и мы кое-что умеем делать”. А он: “Кто сказал? Выйди из строя!” Я вышел, представился, сказал, что умею: боксер, ворошиловский стрелок. Жуков ответил: “Это хорошо. Нам как раз надо создать несколько групп для борьбы с диверсантами”. Меня туда и записали.

**— Сложно было?**

— Очень. Надо было очень метко стрелять. У японских диверсантов на поясах было прикреплено взрывчатое вещество, в случае опасности они сами подрывались и подрывали наших солдат. Словом, надо было попадать только в руки. Иначе живого “языка” не взять.

**- Но они же были смертниками, неужели “раскалывались”?**

— Наше дело было их взять. И мы передавали их дальше. Судя по тому, что нас часто “выводили” точно на другие группы, многие действительно “раскалывались”. Жить хочется всем.

Попутно мы занимались и хунхузами. По сути это разбойники, бандиты китайские.

Во всех сложных ситуациях меня спасала моя боксерская и казацкая закалка.

**— Боксерская — понятно. А казацкая?**

— До бокса я в совершенстве знал русский кулачный бой — меня обучил отец. Все казаки знали кулачный бой. Причем отменно!

**— А каратэ? Восточные боевые искусства?**

— Все это, не спорю, интересные штуки. Но мы японцев-диверсантов клали. Причем хорошо. К тому же в русском кулачном бою также есть вещи, скажем так, психологического плана. Я их знал и применял. Особенно в Отечественную в рукопашных боях с фашистами. Делаешь, например, вот так (показывает) — и враг в шоке. А мне приходилось драться и с эсэсовцами. Очень сильно были подготовлены, но я и их бил.

Так что, молодой человек, я скажу вам: увлекаясь каратэ, нынешняя молодежь зря забывает русский кулачный бой. Совершенно зря. Он, по-моему, лучше. Я, например, черенок лопаты ладонью перебивал спокойно. Есть такой удар — “сухой лист”...

**(Окончание следует.)**

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС*ІНТЭРФАКС*НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

## Пульс дня

### Б.Клінтан супраць

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан зноў выказаўся супраць скарачэння расходаў на праграмы замежнай дапамогі і абмежавання ўдзелу ЗША ў ваенных аперацыях за рубяжом пад эгідай ААН, чаго так актыўна дабіваецца рэспубліканская большасць у кангрэсе ЗША.

### Рускія прадпрымальнікі ў Амерыцы

Ужо некалькі дзён у Лас-Вегасе руская гаворка чуваць на кожным кроку. Сюды з'ехаліся прадстаўнікі ўрадавых і дзелавых колаў Расіі і іншых былых савецкіх рэспублік для ўдзелу ў маючым адбыцца беспрэцэдэнтным для нашых краін форуме прадпрымальнікаў, які атрымаў назву расійска-амерыканскі кангрэс па развіццю дзелавога і эканамічнага супрацоўніцтва.

### Гарачыня забрала 222 чалавечыя жыцці

Гарачыня, якая ўстанавілася з сярэдзіны мая ў густанаселеных паўночна-заходніх і цэнтральных штатах Індыі, забрала 222 чалавечыя жыцці. За апошнія чатыры дні жалобны спіс ахвяр папоўнілі імёны яшчэ 96 індыйцаў.

### А раптам заржавела?

Прадстаўнікі Пентагона і міністэрства энергетыкі ЗША правялі ў пачатку чэрвеня закрытую нараду, на якой было прапанавана правесці выпрабаванні ядзернай зброі з ужо існуючых запасаў з мэтай высвятлення яго надзейнасці. Аб гэтым паведаміў амерыканскі часопіс "Ньюсуік".

### "Работа працягваецца"

"Мы ўсё яшчэ не дасягнулі той стадыі, калі можна сказаць, што ядзерная праблема КНДР поўнасцю вырашана, аднак работа ў гэтым напрамку працягваецца", — заявіў у японскай сталіцы памочнік дзяржсакратара ЗША па ваенна-палітычных пытаннях Роберт Галучы.

## Падрабязнасці трагедыі

### У Маскве забіваюць "свой свайго"

На адной з маскоўскіх вуліц ля станцыі метро "Прафсаюзная" адбылася баявая сутычка з прымяненнем агнястрэльнай зброі паміж групай патрульна-паставой службы сталіцы і апэратыўнікамі службы бяспекі. Адзін з міліцыянераў быў забіты, другі цяжка паранены. Ёсць параненыя і сярод чэкістаў.

Здарэнне трымалася два дні ў сакрэце, і толькі нядаўна сталі вядомы некаторыя падрабязнасці дзікага выпадку. А адбылося вось што: вечарам у сераду да інспектара ДАІ, які нёс службу на вуліцы Прафсаюзнай, пад'ехаў на легкавой машыне малады чалавек і паскардзіўся, што нейкія ўзброеныя людзі ў цывільным пагражалі яму зброяй. Інспектар тэрмінова выклікаў падмацаванне — экіпаж патрульна-паставой службы ў складзе чатырох міліцыянераў.

Як толькі спецмашына ГУВД Масквы з уключанымі "маланкамі" пад'ехала да месца, аб якім расказаў вадзіцель, узброеная група ў цывільным без усялякіх перамоў адкрыла агонь з некалькіх ствалоў. Адзін з міліцэйскіх сяржантаў упаў мёртвы, пранізаны градам куль. Другі атрымаў цяжкае раненне. Але той, хто застаўся жывы, выпусціў у адказ з аўтамата некалькі чэргаў. І толькі тады чэкісты апамяталіся. Але было позна: кроў пралілася...

Пакуль сталічныя ўлады шукаюць версіі апраўдання дзікунскага выпадку, вопытныя крыміналісты ацэньваюць маскоўскую трагедыю не толькі непрафесіяналізмам прадстаўнікоў сілавых структур, але і вынікам даўняга саперніцтва бескантрольных ведамасных магнатаў.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

### Вы — салдаты, мы — вашы салдаткі...

Крыху больш за тыдзень праслужыла ў арміі 18-гадовая Н., адна з 1600 аргенцінак, якія запісаліся добраахвотніцамі на ваенную службу. На дзевяты дзень яна падала прашэнне аб звальненні, пабаяўшыся непасрэднага начальніка — старшага сяржанта, якога абвінавaціла ў "сексуальным праследаванні" і запалохванні.

Гэта — першы прыступ галаўнога болю для камандавання пасля таго, як з гэтага года пачала дзейнічаць сістэма, што дазваляе суіснаванне ў казармах Аргенціны ваеннаслужачых абодвух полаў.

Аб непрыемных здарэннях "навабранкі" паведамілі мясцовыя сродкі масавай інфармацыі, якія не раскрылі, паводле меркаванняў этыкі, яе імя. Падзеі адбываліся ў 10-й механізаванай брыгадзе, раскватараванай у Санта-Росе, 800 кіламетрах на паўднёвы захад ад Буэнас-Айрэса, у адной з часцей, якая прыняла для праходжання службы групу жанчын. Паводле слоў пацярпеўшай, старшы сяржант, які "паклаў на яе вока", загадаў ёй пакінуць дзяжурства і падаць яму матэ (зялёны чай, ужыванне якога ператварылася ў аргенцінцаў, уругвайцаў і парагвайцаў у свайго роду рытуал). Потым запрасіў пайсці з ім пагуляць у вольны дзень, на што яна адказала адмоўна.

"Таму што ён — начальнік, я паводзіла сябе спакойна, асабліва не супярэчыла. А ён распусціў рукі, дык я напачатку аслупянела са страху", — прызналася дзяўчына. А калі яна стала ўхіляцца ад пацалункаў і супраціўляцца, сяржант папярэдзіў, што ёй будзе дрэнна, калі яна раскажа аб здарэнні афіцэрам.

Тым не менш яна далажыла афіцэру, і на наступны дзень, калі яна ішла ў звальненне, сяржант падпільноўваў яе ля варот часці. "Ён крычаў і абражаў мяне перад саслужыўцамі. Я адразу ж пайшла і напісала рапарт аб звальненні".

Камандзір брыгады генерал Хорхе Эчэверыя заявіў журналістам, што сексуальныя дамаганні сяржанта "не пацвердзіліся", але яго пакаралі ў дысцыплінарным парадку за "зняцце з паста салдата для прыгатавання матэ".

**(ІТАР—ТАСС).**

### У "мінімальным спажывецкім кошыку"... супрацьзачаткавыя сродкі

Дзяржаўная кампанія Гандураса, якая адказвае за забеспячэнне гандлёвых устаноў таварамі з так званага мінімальнага спажывецкага кошыка, абвясціла, што мае намер уключыць у гэты спіс побач з хлебам і малаком... супрацьзачаткавыя сродкі.

"Мы пайшлі на такі крок, улічваючы, што калі ўжо пры цяперашняй дарагоўлі ў Гандурасе шматдзетным сем'ям цяжка разлічваць на набыццё спажывецкага кошыка цалкам, дык няхай у такіх сямействаў будзе магчымасць рэгуляваць нараджальнасць дзяцей, набываючы па даступнай цане прэзерватывы і падобныя ім сродкі ў "народных магазінах" — так растлумачыў прынятае рашэнне кіраўнік кампаніі Гільерма Лапес. Ён выказаў надзею на разуменне гэтай меры ў грамадстве, і асабліва ў каталіцкай царкве, якая выступае супраць любых форм кантролю за нараджальнасцю.

Аднак негатыўная рэакцыя на гэта паследавала адразу ж. Уплывовая ў Гандурасе грамадская жаночая арганізацыя заявіла, што "размеркаванне па нізкіх цэнах прэзерватываў не можа знізіць вастрыню сацыяльных праблем у краіне".

**З Мексікі Уладзімір КУЛІКОЎ.**

## Дайджест без политики

# Что пишут, то и читаем...

### Что творится в России? Воруют!..

В специальном интервью Русской службе Би-би-си руководитель российского Интерпола Юрий Мельников назвал ошеломляющую сумму капитала, уплывшего в прошлом году из России на Запад, — 80 миллиардов долларов. По его словам, из страны каждый месяц вывозится около полутора миллиардов долларов. Уходят деньги в основном в США через пять крупных американских банков.

Причина того, что происходит, — прежде всего в отсутствии законодательной базы. Даже если деньги удается обнаружить, получить их из-за "белых пятен" в российском законодательстве не так-то легко. Мы вступаем в эпоху активного международного сотрудничества, но у нас нет закона, который признает это деяние противоправным.

Сделать так, чтобы о большой сумме наличных, которую кто-то вывозит за границу, становилось известно еще до выезда ее владельца, — дело непростое. Если западные банки и компании в большинстве случаев сообщают властям своих стран о том, что кто-то явился к ним с подозрительной суммой наличности, то российские банки делать это нужным не считают. Наказать их за то. что они этого не делают, в силу законодательных недоработок опять-таки непросто.

Тем не менее, несмотря на практически полное отсутствие законодательства об отмывании денег, наказать кого-то все-таки удается. Из 6 тысяч подобных дел 3 тысячи доведены до суда.

Корреспондент Би-би-си спросил Мельникова: как будет развиваться динамика таких преступлений в будущем?

— Я по уставу Интерпола политикой заниматься не имею права. Поэтому воздержусь от каких-либо комментариев. Карамзин еще в прошлом веке сказал: "Если меня спросят, что творится у нас в России, одним словом отвечу: воруют".

*(Международная газета "Мегаполис-континент".)*

### Как дед Ленина спас Тараса Шевченко

Житомирский краевед Николай Кострица сделал интересное открытие. Оказывается, дед Ленина по матери Александр Дмитриевич Бланк весной 1837 года спас жизнь молодому Тарасу Шевченко. Когда поэт, будучи учеником художника Владимира Ширяева, тяжело заболел, друзья посоветовали направить его на лечение к известному тогда в Петербурге врачу А.Д.Бланку. Тот работал в больнице Святой Марии-Магдалины. Александр Дмитриевич выходил больного.

*(Газета "Всеукраинские ведомости".)*

### В Ватикане, как и в Греции, есть все...

В самом крошечном государстве мира, Ватикане, есть тем не менее самые настоящие торговые точки — универсам, бутик, две продуктовые лавки, аптека и парфюмерия. Здесь можно приобрести все, что душе угодно, — от часов "Картье" до зубной пасты. Не купите вы здесь лишь одного товара — ненавистных католической церкви презервативов. Причем стоит все в Ватикане на 30 процентов дешевле, чем в Италии, к тому же покупки освобождены от таможенного сбора и налога на добавленную стоимость.

Отоваривают магазины священнослужителей папского престола, пенсионеров и членов их семей, а также дипломатов. Клиенты имеют специальные торговые карточки. Но нередко услугами граждан Ватикана пользуются, чтобы сэкономить, друзья и родственники из Италии. Можно видеть, например, как из ватиканского магазина выходит чопорная монахиня, навьюченная бутылками со спиртными напитками.

*(Информационная газета "Московское время".)*

### К наградам представлены... петух и собака Сюзи

Эта награда была присуждена в Англии. Собака Сюзи спасла от бандитов свою хозяйку — 13-летнюю девочку. К сожалению, четвероногий друг при этом погиб. Королевское общество защиты животных посмертно присудило верной собаке специальную премию.

А вот в Германии героем стал... обыкновенный петух. Впрочем, дело происходило еще в средние века. Шла война, и город Мюнстер уже несколько месяцев находился в осаде. Жители съели все свои припасы и даже кошек и собак. Лишь один петух чудом уцелел. Однажды этот голодный петух в погоне за жуком вспрыгнул на крепостную стену. Обратно на землю он спуститься не мог — там его ждали оголодавшие люди. Так он и ходил по стене, а противник решил, что у жителей еще много провизии, и снял осаду.

В благодарность за свое спасение жители Мюнстера установили "герою"—петуху позолоченный памятник.

*("Эфир-дайджест".)*

### 10 бананов в день, и вы... трезвенник!

Лидер общероссийской Банановой партии Алексей Виноградов предложил региональным отделениям пропагандировать новый метод лечения алкоголизма. Каждому пьянице рекомендовано ежедневно съедать десяток бананов, после чего пить просто невозможно: в лучшем случае — вырвет. Эта методика была опробована на трех вологодских алкоголиках, двое из которых уже через три недели не могли смотреть ни на водку, ни на бананы.

*(Газета "Московское время".)*

### Про аскетичную Мадонну

Мадонна — женщина американской мечты — жизнь ведет весьма умеренную. На сцене одно, дома — другое. Ее тренер Рей Кубартис говорит, что норма ежедневного бега для Мадонны — 8 миль и что она выдерживает обязательные полтора часа серьезной нагрузки в спортивном зале.

Мадонна взяла себя в руки в 87-м году, когда услышала, что поклонники называют ее "пышкой". "Нам за ней не угнаться, — рассказывает танцовщица Донна Де Лори из шоу Мадонны, — я иногда пытаюсь присоединиться к ее тренировкам, но меня хватает на два дня..."

Личного повара у Мадонны (рост 168, вес 51,5) нет. Свой рацион придумала сама.

Меню двух дней "звезды" выглядит вот как. В понедельник утром — чашка чая с мятой и имбирем; в обед — запеканка, сок и фрукты с йогуртом; на ужин — суп из риса с сельдереем и блюдце миндаля. Во вторник утром — чай с мятой; в обед —морковный сок, салат из сельдерея, грецких орехов и редиса; на ужин — рыба на пару.

Трудно все-таки быть Мадонной...

*("Общая газета".)*

### Красавица вселенского масштаба

Американка Челси Смит стала обладательницей титула "Мисс Вселенная", обойдя 81 претендентку в престижнейшем конкурсе красоты. 21-летнюю студентку из Техаса первыми поздравили президент и премьер-министр Намибии — первой африканской страны, ставшей хозяйкой этого международного конкурса.

*(Журнал "Огонек", N 21.)*

**Свежие газеты и журналы читал Иосиф КАЛЮТА.**

### Паход "Жырыноўскага" на Балканы

Своеасаблівую форму дзелавога супрацоўніцтва набывае ўзаемадзеянне Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі і ліберальнай партыі Балгарыі. Яе старшыня Веселін Кошаў, як паведаміла газета "24 часа", ў гутарцы з журналістамі сказаў, што сіламі абедзвюх партый будзе створана сумеснае прадпрыемства па вытворчасці гарэлкі "Жырыноўскі". Распаўсюджанне гарэлкі "Жырыноўскі" не абмяжуецца толькі балгарскай тэрыторыяй. Мясцовыя лібералы маюць намер першапачаткова экспартаваць такую гарэлку таксама на Кіпр і ў Грэцыю. У Балгарыі гэтая гарэлка, напэўна, знойдзе попыт. І прычына не столькі ў тым, што тут ёсць прыхільнікі лідэра ЛДПР. Балгарскі рынак перапоўнены ўсялякага роду "гарэлачнымі падробкамі". А той, хто тут ужо спрабаваў гарэлку, на этыкетцы якой адлюстраваны Жырыноўскі, адзначаюць яе добрую якасць.

**(Агенцтва ІТАР—ТАСС.)**





Хоккей

# Красный свет за воротами "Тивали"?

**Алесь СИВЫЙ**

***В спорте как в жизни: нас покидают лучшие. И если раньше спортсмены убегали на заграничные хлеба легкой рысцой, то сейчас прут галопом.***

Самое интересное, что осудить-то этих ребят, вкалывающих до семи потов, гробящих собственное, а не дядино здоровье и получающих гроши, рука не поднимется. Это "там" спортсмен уходит на заслуженный отдых состоятельным человеком, а у нас...

Недавно победительница чемпионата Беларуси по шахматам Раиса Эйдельсон получила приз, оцененный аж в 90 тысяч 520 рублей. Хоккеисты минского клуба "Тивали" вообще ничего не получили даже за прошлый месяц. И ведь шайбами зарплату брать неохота. Потому что и шайб не всегда хватает. По моим сведениям, двенадцать игроков "Тивали" (а может, уже и больше) уходят из команды. Лучший хоккеист Беларуси Василий Панков, Олег Хмыль и Олег Романов — в богатую тольяттинскую "Ладу", Владимир Копать и Андрей Скабелка — в ярославское "Торпедо", Александр Макрицкий — в омский "Авангард", Константин Фролов — в электростальский "Кристалл", Александр Андриевский собирается вернуться в Финляндию, Руслан Салей давно имеет виды на Америку... Кто остался в "Тивали"? Какую игру покажет команда с таким составом? Вопросов, увы, больше, чем ответов.

"Ситуация патовая, — говорит вице-президент АО "ХК "Тивали" Михаил Юркович. — Мы не в состоянии финансировать команду на приличном уровне. Едва ли не каждый день растет плата за аренду льда. Плюс переезды, плюс инфляция. Естественно, держать игроков на привязи никто не собирается, но еще больше не хочется терять ведущий хоккейный клуб республики".

Единственный путь спасения руководство видит в том, чтобы отнести клуб к предприятиям физической культуры и спорта. Случится это — и "Тивали" уменьшит выплату налогов государству, но, естественно, большую часть денег сможет перекинуть на нужды хоккейные.

Вопрос этот щекотливый, и, по словам президента "Тивали" Игоря Макаеда, вся надежда на администрацию Президента. Они-то, возможно, и разрешат шекспировский вопрос: быть или не быть? А точнее — жить или не жить?

**P.S.** ***До 19 июня хоккейный клуб "Тивали" должен подтвердить свое участие в Межнациональной хоккейной лиге.***

## ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ

**Аўторак, 13 чэрвеня**

**Беларускае тэлебачанне**

**12.10** Тураб'ектыў.
**12.30** "Нов і К"-топ.
**15.00** Навіны.
**15.10** "Дзяржаўная граніца". Фільм 6-ы "За парогам Перамогі".
**16.20** "Памежжа". Передача з Гродна.
**16.40** Фільмы-прызёры I Міжнароднага тэлефоруму "Экамір-95". "Добрае асяроддзе, дрэннае асяроддзе" (Ізраіль), "Зона адчужэння" (Беларусь).
**17.30** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.00** АТН, Бі-бі-сі, Сі-эн-эн.
**18.45** Майстэрня. Мастак Уладзімір Стэльмахаў.
**19.00** III Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Мінск-95". Частка 1-я.
**20.20** Эканамікст.
**20.30** Скрыжалі. Платон.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.35** "Ракавое каханне". Мультфільм для дарослых.
**21.50** Кліп-канцэрт.
**22.00** Рэклама.
**22.10** "Сенсацыя". 22-я серыя.
**23.05** Навіны.
**23.20** Шоу-прагноз.
**23.25** III Нацыянальны фестываль "Мінск-95". Частка 2-я. Пасля заканчэння — Пад купалам Сусвету.

**I канал**

**17.00, 20.00** Час.
**17.15** "Адгадай мелодыю".
**17.40** Дзікае поле.
**17.55** Гадзіна пік.
**18.15** "Жазэфіна, ці Камедыя славалюбства".
**19.05** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.40** З першых рук.
**20.55** Клуб "Белы папугай".
**21.40** Версіі.
**22.00** Закрыццё міжнароднага фестывалю "Кінатаўр-95".
**23.10** Без паўзы.
**23.35—23.55** Навіны.

**Канал "Расія"**

**17.05** Ніхто не забыты.
**17.10** Мір і вайна.
**17.40** Наш сад.
**18.10** L-клуб.
**19.00,** 22.00 Весткі.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** Прэм'ера тэлеэкрана. "Дайце цуду шанц".
**20.30** Даміно Міхаіла Баярскага.
**21.05** "Меерхольд: неразгаданая загадка" цыкла "XX стагоддзе ў кадры і за кадрам". I-я серыя.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** "Меерхольд: неразгаданая загадка". 2-я серыя.
**23.30** Экран крымінальных паведамленняў.

**Санкт-Пецярбург**

**12.00** Стыль жыцця.
**12.15, 12.55, 22.15** Музычны момант.
**12.20** Рамансы П. Чайкоўскага і С. Рахманінава.
**12.35** "Нямецкая хваля".
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** "Мануэла".
**14.20** Парады садаводам.
**14.30, 18.30, 21.40** Інформ ТБ.
**14.40** "Дом Ашэраў". Маст. фільм.
**16.10** "Егіпецкія ночы". Фільм-балет.
**16.50** Па ўсёй Расіі.
**17.00** Сем пятніц на тыдні. Кідайка.
**18.00** Тэлемагазін.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.45** Спартыўныя навіны.
**18.55** "Мануэла".
**19.45** Тэлеслужба бяспекі.
**19.55** Банкаўскі кангрэс. З цыкла "Мы і банк".
**20.40** "Навальніца над Руссю". Тэлефільм. 2-я серыя.
**21.55** Спорт, спорт, спорт...
**22.25** "Гарадская фантазія". Музычны фільм.

**8-ы канал**

**18.00** Дубль-2. Маст. фільм. "Смерць і невінаватасць".
**19.30** Мультфільм "Качыныя гісторыі".
**19.40** Тэлесерыял "Арбалет".
**20.30** Мультфільм "Кніга джунгляў".
**20.55** Ваша рэклама.
**21.00** Тэлесерыял "Горац".
**21.45** Дыліжанс.
**22.00** Кіно Расіі... Маст. фільм. "Лінія смерці".
**23.30** Маскі-шоу.

**НТБ**

**17.00** "Князь Удача Андрэевіч".
**17.30** "Успомнім тыя гады. 1976".
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Вялікі рынг.
**19.00** "Ваўкі". Маст. фільм.
**21.35** "Паліцыя Маямі. Аддзел нораваў".
**22.30** Часінка.
**23.15** Меламанія: Эрык Клэптан.





### Тэатры

**12—14 чэрвеня**
Пачатак у 19.00
**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ Я.КУПАЛЫ**
14 чэрвеня — **"Ідылія".**
Заказ білетаў і даведкі па тэл: 27-17-17, 27-42-02.

### Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца цёплае без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Гомелі, Магілёве, Віцебску, Мінску — 27—29, Гродне, Брэсце — 28—30 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак па захаду чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы — 13—18, удзень — 27—32 градусы цяпла.

### Астранамічны каляндар — 13.06

Узыход і заход сонца: Мінск — 4.37, 21.41; Віцебск — 4.19, 21.39; Магілёў — 4.27, 21.30; Гомель — 4.32, 21.19; Гродна — 4.54, 21.55; Брэст — 5.04, 21.46.

Даўжыня дня ў Мінску — 17 гадзін 4 мінуты.

Поўня — 7.04.






НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Даведкі па тэл.: 68-28-70, 68-25-59.
Рэкламнае бюро — тэл. (0172) 68-28-11, тэл./факс (0172) 68-25-29, 68-25-28.

**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

Індэкс 63868

Заснавальнік — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.
Адрас: Мінск, вул. К. Маркса, 38.
Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.
Падпісана ў друк у 19.10. Зак. 1962.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва"Беларускі Дом друку". Адрас: Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**Галоўны рэдактар**
**Мікалай ГАЛКО**

